

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.*

№ 6 (135), КРАСАВІК 2012 ГОДА


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## КОЛЬКІ КАШТУЕ МАРАЛЬ?

**Апошнім часам у СМІ з'явілася інфармацыя аб тым, як простыя рабочыя прад'яўляюць прэтэнзіі да апазіцыянераў. Некалькі чалавек падалі ў суд на апазіцыйных палітыкаў, каб абараніць свой гонар і годнасць. Пры гэтым скаржнікі лічаць, што яны ўжо пацярпелі ад дзейнасці некаторых палітыкаў і патрабуць грашовай кампенсацыі за нанесеныя маральныя страты.**

Так, работніца Мазырскага МПЗ Марына Цыблiенка падала ў суд на менскага палітыка Віктара Івашкевіча, а майстар цэха "Гродна Азот" Аляксей Емяльянчык на былога кандыдата ў прэзыдэнты Зміцера Уса.

Спадарыня Цыблiенка патлумачыла сваю пазіцыю тым, што народафронтавец Івашкевіч нібыта заклікаў еўрапейскія кампаніі байкатаваць беларускія нафтапрадукты. А з-за яго выказванняў маральна яна ўжо пацярпела і за нанесены ўрон патрабуе спагнаць з Івашкевіча 500 тысяч беларускіх рублёў. Спадар Емяльянчык адпаведна запрасіў з Уса два мільёны рублёў за тое, што палітык звярнуўся да Савета міністраў Еўрасаюза з просьбай аб увядзенні санкцый супраць рэжыма РБ.

Як аказалася, сапраўды палітыкі звярталіся да ўрадаў еўрапейскіх краін, каб тыя ўвялі эмбарга на набыццё і транспартаванне беларускіх нафтапрадуктаў. Але ж па ўсяму бачна, што рабочыя зусім не разумеюць сутнасці падобных зваротаў.

Па-першае, ні Віктар Івашкевіч, ні Зміцер Ус ніякіх юрыдычных паўнамоцтваў у Еўрасаюзе не маюць, таму непасрэдна не могуць уплываць на знешнюю палітыку еўрапейскіх урадаў. Гэта ўсяго толькі іх асабістыя меркаванні. Па-другое, адносіны Еўропы і Беларусі сапсавалі не нашы дэмакратычная лідэры, а цяперашнія ўлады, якія абяцалі выпусціць палітычных вязняў, аднак сваіх абяцанняў не стрымалі. Дагэтуль 16 чалавек па неабгрунтаваным абвінавачванням, фактычна ні за што сядзяць у турмах. Па-трэцяе, а каму насамрэч патрэбны былі звароты ў суд на апазіцыянераў? Яны і без гэтых спагнанняў самі сядзяць пад дамашнім арыштам – іх не выпускаюць у паездкі за мяжу.

Наўрад ці самі рабочыя па ўласнай ініцыятыве звярталіся ў суд. Дык адкуль растуць вушы? Хутчэй за ўсё позвы пісаліся пад дыктоўку начальства – гэтак званых дзяржаўных штатных ідэолагаў, якія ёсць на кожным прадпрыемстве. Нядоечы першым "засвяціўся" Леанід Козік, кіраўнік афіцыйных прафсаюзаў. У сваёй заяве ён папярэдзіў, што ФПБ гатова заступіцца за тых работнікаў, хто адстойвае ў судзе правы краіны і свае правы на гарантаваную працу і заробак.

Дарэчы, перадусім санкцыі супраць рэжыму РБ былі ўжо ўведзены. Але эканамічныя абмежаванні прымянілі выбарачна, ды і тыя былі толькі супраць кампаній гэтак званых "алігархаў", набліжаных да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі. Як вядома, рэпутацыю найбольш надзейных алігархаў Лукашэнкі маюць Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж і Аляксандр Шакуцін. Канешне, яны нашмат бяднейшыя за багацеяў суседняй Расеі, але ў іх адзін начальнік, ад загадаў якога залежыць іх лёс. Ясна, што ніякія санкцыі на эканоміку Беларусі не паўплываюць, але закрануць асабістыя матэрыяльныя інтарэсы чыноўнікаў.

Уладзімір Пефціеў у сваю чаргу звярнуўся з пазовам ў суд Еўрасаюзу супраць Рады ЕС. Ён патрабуе кампенсацыю за страты, нанесеныя санкцыямі яго тром кампаніям:

"Белтэхэкспарт", "БТ-телекамунікацыі" і "Спорт-пары". А пра Івашкевіча і Уса ніхто з алігархаў нават і не ўспомніў.

Вось і атрымліваецца, што прадстаўнікі ўлады і наменклатурныя алігархі РБ пасварыліся з урадамі Захаду за асабістыя інтарэсы. І праблема санкцый ідзе найперш у дачыненні да чыноўнікаў, якія праявілі сябе не лепшым чынам ў сферы палітычных рэпрэсіяў да апанентаў. Аднак пры гэтым прыкрываюцца простымі рабочымі, якія палітыкай не займаюцца, але вымушаны за загаду начальства псаваць нервы сабе і апазіцыянерам за капейкі. Ды і хіба можна купіць мараль за 500 тысяч абясцэненых рублёў? З якіх часоў і дзе пачалі прадаваць сумленне на міжнародным рынку?

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## Няма сродкаў на рамонт? Тады будзе парадак на зямлі!

**Раённая адміністрацыя стварыла рабочыя групы ў райцэнтры і пры кожным сельвыканкаме з адказных асобаў. Цяпер службоўцы будуць ажыццяўляць кантроль за парадкам на падведамасных тэрыторыях прадпрыемстваў і арганізацый, выяўляць недахопы ў рабоце і шукаць вінаватых.**

Адзін з галоўных напрамкаў дзейнасці органаў мясцовай улады – выкананне праграмы па навядзенню парадку на зямлі. Кожны тыдзень у райвыканкаме збіраецца спецыяльны штаб, дзе грунтоўна аналізуюць правядзенне работ па добраўпарадкаванні. На чарговым пасяджэнні штаба па добраўпарадкаванню пад кіраўніцтвам намесніка старшыні райвыканкама Алега Быкава былі падведзены першыя вынікі месячніка па навядзенні парадку на Шуміліншчыне. Як вядома, красавік традыцыйна аб'яўлены месячнікам навядзення парадку ў раёне.

Многія працоўныя калектывы, прыватныя домаўладальнікі актыўна ўключыліся ў яго, у гэтак званы санітарны дзень паўсюдна праводзілася ўборка тэрыторый. Руплівыя гаспадары не сталі чакаць закліку да навядзення парадку на замацаваных тэрыторыях, тэрыторыях ля жылых дамоў і адміністрацыйных будынкаў, узяліся за венікі, граблі і ўбралі смецце.

Тэндэнцыя да павышэння культурнага ўзроўню насельніцтва Шуміліншчыны навідавоку: менш смецця бачна на вуліцах райцэнтра, прыдарожных палосах, у лясах. Прычым для большасці жыхароў навядзенне чысціні і парадку становіцца нормай жыцця, незалежна ад таго, праводзіцца афіцыйная акцыя накшталт месячніка або не. Тым больш, што кіраўніцтвам раёна было прынята дадатковае рашэнне, паводле якога дзяржаўныя арганізацыі і прадпрыемствы павінны штодзённа займацца добраўпарадкаваннем як уласных, так і замацаваных тэрыторый.

Да прыкладу, у Шуміліне амаль вырашылі праблему з аварыйнымі дрэвамі: з 91 дрэва спілена 80. Іншым адказным асобам пра неабходнасць навесці парадак на зямлі давялося напамінаць. Так, у населеных пунктах раёна дагэтуль не ўбралі каля 160 аварыйных дрэў, а на грамадзянскіх могілках засталося больш за 400 дрэў.

Трэба дадаць, што прыгажосць гарадоў і вёсак – справа даволі затратная, а грошы на яе не заўсёды знаходзяць. Як не хапіла фінансаў на рамонт даха цэнтральнай раённай бальніцы. Асвоілі 740 мільёнаў рублёў, а патрэбна яшчэ 1 мільярд 250 мільёнаў рублёў. Відавочна, што сваімі сіламі раён не здолее працягнуць мадэрнізацыю будынкаў сацыяльна-культурнай сферы.

У ходзе пасяджэння высветлілася, што ніводзін палігон цвёрдых бытавых адходаў не адпавядае элементарным нарматыўным патрабаванням. Апроч таго, у кантэйнеры ляцяць смецце, якое ніхто не сартыруе. А гэта – згубленыя грошы.

Зусім непрывабная карціна псуе выгляд: у цэнтры Шуміліна (вул. Ленінская, Кароткіна, Сіпко) і на ўскраінах каторы год стаяць струхлелыя пабудовы. У некаторых гаспадароў ужо няма, таму згодна з заканадаўствам іх павінны зносіць улады за кошт бюджэтных сродкаў. А ўласных сіл і сродкаў у раёне па-ранейшаму не хапае, таму работы ідуць марудна.

Як адзначыў кіраўнік штаба Алег Быкаў, работы службаў у дадзеным накірунку будуць працягвацца. Наперадзе – шэраг суботнікаў, як па ўсёй краіне, так і па нашаму раёну.

Безумоўна, асноўны цяжар па грэйдзіраванню і рамонту дарог, ачыстцы вуліц, вывазцы смецця, пасадцы дрэў, кустоў і кветак, аднаўленню дзіцячых гульнявых і спартыўных пляцовак, добраўпарадкаванне воінскіх пахаванняў традыцыйна возьмуць на сябе жыллёва-камунальная гаспадарка і дарожная служба.

І тут важна найперш арганізаваць эфектыўную працу усіх арганізацый пры кожным сельсавеце, населеным пункце. Пра аддаленыя вёскі таксама нельга забываць, тут няпростая сітуацыя, паколькі сярод жыхароў шмат пенсіянераў.

**Алесь Шумскі.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## Хто як кіруе, той так і плаціць

**Шумілінскія ідэолагі працягваюць "змаганне" за паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў раёне. На базе прадпрыемства меліярацыйных сістэм прайшоў чарговы семінар. І хаця гаспадарка лічыцца паспяховай, заробкі па-ранейшаму застаюцца на ўзроўні сярэдняга паказчыка па раёне – аднаго з самых нізкіх у вобласці. А можа гэта і ёсць вынік гэтак званай выхаваўчай работы з людзьмі?**

Паводле дырэктара ПМС В. Маньнькова сярэдні заробак за сакавік склаў 2 мільёны 147 тысяч рублёў (каля 265 долараў). На семінары гаворка ў асноўным вялася вакол дысцыпліны і парадку. Галоўных спецыялістаў ідэалагічных аддзелаў райвыканкама А. Мазанкова і Л. Шаўцову больш непакоіць святкаванне гэтак званага "Дня Перамогі" і арганізацыя падпіскі на дзяржаўныя газеты. Аднак перамогі дзядоў на асабісты рахунак цяпер не залічваюцца. Не выпадкова намеснік старшыні райвыканкама Анатоль Зайцаў перад штатнымі прапагандыстамі закрануў пытанне аб выбарах ў беларускі парламент. Як вядома, у кандыдаты зноў будуць прызначаць зверху чыноўнікаў ад прэзыдэнцкай вертыкалі. А з чым нашаму начальству цяпер ісці да выбаршчыкаў, калі мінулагодняя абяцанні давесці заробкі ў раёне да 500 долараў так і засталіся на паперы?

Між іншым, 21 сакавіка першы віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка ўжо заявіў, што эканамічны крызіс у Беларусі скончыўся і зарплата на прадпрыемствах у 2012 годзе складзе 500 долараў. А пакуль што сярэдняя зарплата на Шуміліншчыне за студзень-люты складала 2 мільёны 54 тысячы рублёў (250 долараў). Што намнога ніжэй за сярэдняабласны , па Віцебшчыне гэты паказчык склаў 2 мільёны 619 тысяч рублёў. Дарэчы, сярэдні заробак па краіне склаў два мільёны 955 тысяч рублёў. Увогуле, сярод раёнаў вобласці Шумілінскі – сумна вядомы "рэкардсмен". Праўда, з пачатку года з пазапошняга месяца здолеў падняцца вышэй яшчэ на адно, пакінуўшы за сабой толькі два раёны – Браслаўскі і Ушачскі.

**Аляксандр Шчамлёў.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Світанка» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

МОЛАДЗЬ ПЕРАД ВЫБАРАМ

# Пуцёўка ў жыццё

**Няшмат часу засталося вучням і бацькам да таго моманту, калі паўстане пытанне: куды пайсці вучыцца далей? На злёце выпускнікоў школ, якія прайшоў у Шуміліне, будучым абітурыентам расказалі пра навучальныя ўстановы, дзе можна атрымаць прэстыжную прафесію або спецыяльнасць.**

Да выпускнікоў школ з прывітальным словам звярнуўся намеснік старшыні райвыканкама Анатоль Зайцаў. Ён адзначыў, што Шумілінскі раён мае вострую патрэбу ў спецыялістах народнай гаспадаркі практычна ва ўсіх сферах дзейнасці. Да таго ж кіраўнікі прадпрыемстваў жадаюць, каб мясцовыя выпускнікі школ і пасля набыцця прафесіі вярталіся ў раён. Штогод раёну патрэбна не менш 140 маладых спецыялістаў. А пакуль ліцэі і каледжы рыхтуюцца прымаць папаўненне, арганізацыі раёна спяшаюцца прывабіць маладое папаўненне ў свае рады. Як напрыклад, галоўны лекар раённай бальніцы К. Баканаў, які заклікаў выпускнікоў да паступлення ў медычныя сярэднеспецыяльныя і вышэйшыя ўстановы. Зараз у райбальніцы ёсць вакансіі для 13 лекараў, 3 фельчараў, 2 медсясцёр, аднаго зубнога тэхніка.

Наперадзе ў маладзёнаў – цікавае, самастойнае жыццё, уступныя экзамены ў розныя навучальныя ўстановы. Для тых, хто яшчэ не вызначыўся са спецыяльнасцю, выступілі прадстаўнікі вышэйшых і сярэднеспецыяльных устаноў вобласці. Аб новых факультэтах, якія пачнуць прыём сёлета, аб умовах паступлення, навучання і адпачынку расказвалі прадстаўнікі Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны, Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя П. М. Машэрава, Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэту, Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэту. Аб магчымасцях атрымання другой ці нават трэцяй спецыяльнасці падчас вучобы паведамілі дэлегаты іншых сельскагаспадарчых навучальных устаноў: Гарадоцкага і Лепельскага аграрна-тэхнічных каледжаў, Гарадоцкага і Ульскага прафесійных каледжаў.

Школьнікам яшчэ раз нагадалі, што той, хто абраў недэфіцытную спецыяльнасць, павінен будзе даказваць, што ён лепшы, каб атрымаць работу па спецыяльнасці. Аднак тым, каму не пашанцуе пры паступленні ў ВНУ, таксама не трэба адчайвацца і дарэмна губляць час. Апроч таго, цяпер можна атрымаць прафесію да наступнага года і праз раённы цэнтр занятасці насельніцтва.

**Алесь Шумскі.**

ГІСТАРЫЧНАЯ ПАМЯЦЬ

# УРОКІ МУЖНАСЦІ

**Супрацоўнікі раённай бібліятэкі ладзілі сустрэчу старшакласнікаў з былымі вязнямі канцлагераў. Праўдзівыя ўспаміны расказалі шумілінскім школьнікам шэсць былых вязняў, якія былі запрошаны ў чытальную залу.**

Сёння, праз столькі год, жыццё ахвяр вайны ўжо бачыцца па-іншаму, аднак цяпер неабходнасць расказаць усю праўду маладому пакаленню. Ідэя мерапрыемства ўзнікла даўно – матэрыялы па азначанай тэме падрыхтавалі кіраўнічка літаратурнай гасцёўні Т. Іваноўская і загадчыца аддзела інфармацыі Л. Грыгор'ева.

11 красавіка Міжнародны дзень вызвалення вязняў канцлагераў. Па рашэнні ААН у гэты дзень ва ўсім свеце ўспамінаюць тых, хто перажыў жахі нацысцкіх лагераў. На тэрыторыі нашай краіны ў лагерах смерці і так званых месцах масавага знішчэння загінулі амаль 2 мільёны 300 тысяч чалавек.

Здавалася б, столькі было напісана пра вайну, але многае дагэтуль застаецца нераскрыта. Ва ўсіх свая праўда – у вайскоўцаў, палітыкаў, мірнага насельніцтва. І тое, што давялося перажыць малалетнім вязням у гады ліхалецця, асабліва важна пачуць зараз непасрэдна з іх слоў. Так, яны не ваявалі, бо былі ў палоне – у турмах, канцлагерах. Але за што ў тыя далёкія гады малалетнія дзеці прынялі нечалавечыя пакуты?

У гады Другой сусветнай вайны Беларусь стала краінай супраціву. І на Шумілінішчыне таксама быў партызанскі рух. А гэта – дзесяткі спаленых гітлераўскімі карнікамі вёсак, сотні закладнікаў, ахвяраў акупацыйнага рэжыму. Разам з бацькамі на прымусовыя работы вывозілі і малых дзяцей.

«Баракі былі драўляныя, нізкія, лёгкага тыпу, без століяў, цэментныя падлогі, не ацяпляліся. Летам там немагчыма было знаходзіцца ад смуроду, скучанасці людзей, а зімой ад жудаснага холаду. Праходы праміж трохпавярховымі нарамі былі вельмі вузкімі», – узгадваюць былыя вязні, якія апынуліся ў Нямеччыне. Разам з маці ў лагерных засценках каля Гамбургу знаходзілася А. Пальвінская. Малалетнія Г. Лях і А. Цынгель былі вывезены ў нямецкае рабства. Сямнаццацігадовай дзяўчынай трапіла ў Польшчу З. Патарокіна. Нягледзячы ні на што, яны выжылі. І ўпэўненыя, менавіта яны павінны несці памяць тым, хто не ведаў страшнага дзяцінства. І кожны год, нягледзячы на ўзрост і хваробы яны збіраюцца разам, каб успомніць тых, каго ўжо няма побач з імі.

**Алесь Прыбярэжны.**

ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

# КРАМА КАРЫСТАЕЦЦА ПАПУЛЯРНАСЦЮ Ў ВЯСКОЎЦАЎ

**Дзякуючы зваротам жыхароў да раённага кіраўніцтва зноў гасцінна адчыніла свае дзверы прамысловая крама, што ў пасёлку Слабада. За некалькі месяцаў працы, гандлёвая кропка паспела знайсці свайго пакупніка і стаць запатрабаванай у мясцовага насельніцтва.**

"Зручная для жыцця" – менавіта такі статус дае прамтаварнай краме права на існаванне. Раней з-за недахопу кадраў і хранічнай стратнасці гандлёвая кропка ў аграгарадку Слабада была зачынена. Але вясковыя пакупнікі настаялі на тым, каб усё ж такі раённыя ўлады паклапаціліся аб паляпшэнні работы гандлю. Сяльчане даўно марылі аб суседстве з магазінам, бо да райцэнтра многім як з цэнтральнай сядзібы, так і з аддаленых вёсак дабірацца прыходзілася далекавата. Нарэшце іх спадзяванні збыліся, і з'явілася магчымасць купіць усё неабходнае побач з домам. Балазе, што ўзводзіць новае памяшканне патрэбы было – выкарысталі колішнюю пабудову.

Цяпер людзі прыходзяць сюды купіць неабходныя тавары, якія карыстаюцца попытам на вёсцы. Асартымент разнастайны: ад парфумы і галантэрэі – да веласіпедаў і тэлевізараў.

На двары – красавік, таму ў магазін ужо завезлі вапну, грунт і ўгнаенні для гародзіны і кветак.

Вяскоўцы з задавальненнем наведваюць краму і пакідаюць там значныя сумы грошай. За апошні месяц нагандлявалі больш за дваццаць мільёнаў рублёў. Членам таварыства можна набыць тавар і ў крэдыт да заработнай платы. І людзі такую магчымасць спаўна скарыстоўваюць: заказваюць пральныя машыны, ложкі, газавыя пліты.

**Я. Вайтовіч.**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# СУСТРЭЧЫ З КРАЯЗНАЎЦАМ І ПАЭТАМ

**У раённай бібліятэцы адбылася творчая сустрэча з шумілінскім краязнаўцам і паэтам Віктарам Улюценкам. "Быць зямлі сваёй сынам" – пад такім лейтматывам прайшла вечарына з вядомым земляком, які прысвяціў сваю творчасць роднаму краю.**

Гучалі вершы паэта ў выкананні вядучай творчай сустрэчы Людмілы Грыгор'евай. Сустрэча нагадвала круглы стол, прысвечаны ўспамінам, жыццёваму шляху і творчасці паэта. Вершы ён пачаў пісаць даўно, яшчэ ў юнацкія гады. У тыя далёкія шасцідзесятыя гады малады ўрач захапіўся паэзіяй, друкаваў свае першыя творы ў мясцовай газеце. Тады паэзія насіла больш масавы характар, а творчыя натуры гаварылі аб роднай мове, яе велічы, прыгажосці і непаўторнасці. Матчынай мовай шырокія колы грамадства добра валодалі і нашмат часцей скарыстоўвалі яе ў паўсядзённым жыцці.

Найлепшы вынік у далейшай літаратурнай працы аўтару прынеслі сказы і апавяданні. Варта нагадаць пра цікавы зборнік яго сказаў і прозы «Светлазор», дзе сабраны паданні і легенды пра ўсё вечнае, светлатворнае. З чаго ўсё пачалося? Віктар Улюценка згадвае тых людзей і сяброў, сярод якіх жыў і працаваў. Лячыць землякоў, збіраць краязнаўчыя матэрыялы і друкаваць іх на старонках мясцовай газеты стала для яго не заняткам у вольны час, а патрэбай. Так, напрыклад, гэты дапытлівы чалавек сабраў цікавыя матэрыялы пра род Цэліны Хлюдзінскай, якая нарадзілася ў Аршанскім раёне, а потым жыла ў сваім маёнтку ў Лескавічах на Шумілінішчыне.

Творчае натхненне літаратару дала любоў да роднай зямлі, што нас узгадавала на малой радзіме. У апошні час Віктар Улюценка захапіўся напісаннем музыкі да вершаў. На сустрэчы гучалі песні на словы аўтара – пра Радзіму, родны куток, пра тое, што асабліва хвалюе і непакоіць паэтава сэрца.

Хочацца верыць, што на падобныя сустрэчы будуць хадзіць болей гледачоў, а не зацікаўленых работнікаў культуры і адукацыі. Каб выпадковыя людзі, асабліва моладзь, не глядзела на сучасных беларускіх паэтаў, як на "апошніх з магікан". Бо людзі павінны ведаць сваіх землякоў - продкаў і сучаснікаў, якія шмат зрабілі дзеля Бацькаўшчыны, дзеля дабра і хараства на зямлі. А ведаць - гэта значыць, цаніць, шанаваць і ганарыцца!

**Алесь Прыбярэжны.**

СЯМ'Я БЕЗ НАСІЛЛЯ

# НЯДОБРАНАДЗЕЙНЫЯ СЕМ'І ТРЫМАЮЦЬ ПАД КАНТРОЛЕМ

**З мэтай прафілактыкі выяўлення сямейнага бязладдзя, прыцягнення ўвагі грамадскасці да пытанняў хатняга насілля праводзяцца адпаведныя мерапрыемствы. На працягу месяца ў рамках акцыі "Дом без насілля" рэйдавыя групы з складзе прадстаўнікоў камісіі па справе непаўналетніх, аддзела адукацыі наведвалі кожную сям'ю ў раёне, чые дзеці прызнаны ў сацыяльна небяспечным становішчы.**

Як заўсёды, асноўная ўвага надавалася бытавым умовам дзяцей у сем'ях, што маюць патрэбу ў сацыяльнай абароне. У ходзе акцыі правяраючыя наведаюць няўдачныя сем'і, каб пацікавіцца, як яны жывуць і чым займаюцца там дзеці, асабліва ў вячэрні час і ў выхадныя дні. Не прамінуць зайсці і ў месцы масавага прабывання моладзі – на дыскатэкі, аб'екты грамадскага харчавання.

Шчыра кажучы, некаторыя бацькі зноў здзіўлялі ўдзельнікаў рэйда сваімі неадэкватнымі паводзінамі. Вяскоўцы амаль штодзённа назіраюць, як суседскія дзеці, кінутыя на волю лёсу гора-бацькамі, літаральна выжываюць. Як напрыклад, сям'я Д. з райцэнтра. Пітушчыя бацькі за гарэлкай свету белага не бачылі, а дзеці прымалі за ласунак звычайны белы хлеб з маслам. Затое такога "скарбу", як пустапарожня бутэлькі з пад "чарніла", у хаце было багата. Двух дзяцей – хлопчыка і дзяўчынку з гэтай неблаганадзейнай сям'і ўжо забіралі ў Обальскі дзіцячы прытулак. Тады бацькі адумаліся і сталі на шлях выпраўлення. Аднак, па ўсяму відаць, вывадаў на будучае не зрабілі. На гэты раз камісіяй па справах непаўналетніх будзе вырашана пытанне аб паўторным адабранні дзяцей.

Не ўзялася за розум і грамадзянка В. з Шуміліна. Перад прыездам камісіі спала ў незвярозым стане. А спіртовыя напоі ўжывала разам з бабуляй у прысутнасці непаўналетняй дачкі. Другая шматдзетная маці выхоўвае чацвярых дзяцей, але падчас рэйду пакінула іх без нагляду. За гэты ўчынак ёй давядзецца адказваць перад камісіяй.

Адзін бацька ўвогуле забыўся, што ў яго ёсць сын. Хлопчык утрымліваецца ў прытулку, але ніздбайнаму бацькі з-за п'янкі некалі было наведаць малога. Нават ніколі пазваніў.

Што рабіць у крайнім выпадку? Рашэнне камісіі можа быць адназначным. Калі адабранне дзяцей не паўплывала на паводзіны дарослых і не дапамагло ім пачаць цвярозае жыццё, то на за гарамі пазбаўленне бацькоўскіх правоў. Аб непаўналетніх паклапоціцца дзяржава, а гора-бацькі будуць за гэта плаціць са сваёй кішэні.

Дарэчы, штогод у краіне пазбаўляюцца бацькоўскіх правоў каля чатырох тысяч чалавек. Пры гэтым большасць з іх адмаўляюцца потым матэрыяльна падтрымліваць сваіх дзяцей.

Па статыстыцы каля 50% дзяцей падвяргаюцца насіллю, 37% бацькоў б'юць сваіх дзяцей за любыя праступкі. На жаль, пакуль што да станоўчых зменаў яшчэ далёка.

**С. Горкі.**

# "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ЗАКАЗНЫЯ ПРАЦЭСЫ

# БРАТ НА БРАТА

В СТРАНЕ ЭПИДЕМИЯ ПОЛИТИЧЕСКОЙ АКТИВНОСТИ ТРУДОВЫХ КОЛЛЕКТИВОВ. ПО КРАЙНЕЙ МЕРЕ, ОФИЦИАЛЬНЫЕ ПРОФСОЮЗЫ СТАРАТЕЛЬНО ЕЕ ИЗОБРАЖАЮТ: ЗАСЕДАЮТ, ПРИНИМАЮТ ЗАЯВЛЕНИЯ, ОТ ИМЕНИ МНОГОТЫСЯЧНОЙ АРМИИ ТРУДЯЩИХСЯ КЛЕЙМЯТ И ОБЛИЧАЮТ ТЕХ, КТО, ПО ИХ МНЕНИЮ, ПОДРЫВАЕТ ОТНОШЕНИЯ БЕЛАРУСИ С ЕВРОПОЙ.

«Врагов народа» по требованию трудовых коллективов не расстреливают, но уже готовы судить.

Оператор ЭВМ с Мозырского НПЗ Марина Циблиенко и мастер смены предприятия «Гродно-Азот» Алексей Емельянчик подали иски против политиков Виктора Ивашкевича и Дмитрия Усса, так как считают именно их виновными в нестабильных перспективах своих предприятий на внешних рынках.

Из-за постоянной войны на линии Беларусь-Европа нас всех лихорадит, мы все страдаем. Что бытовые мелочи взять, что глобальную политику - белорусы будто ущербные или прокаженные.

Например, стоимость шенгенской визы. Для граждан России и Украины она всего 35 евро, для белорусов -- 60. Чувствуете разницу?! А ведь при наших зарплатах 60 евро это то же самое, что для россиянина 300! И европейцы это понимают. Более того, не скрывают, что отношение к нам такое, потому что с Минском невозможно договориться. Украина и Россия полноценно участвуют в программе «Европейская политика соседства», а Беларусь -- нет. Носом крутим, дверями хлопаем, то и дело плюемся обидами из-за пограничных столбов. Нам и то не так, и это не этак, и здесь нас не уважили, и там не поняли. То, что России и Украине хорошо, нам почему-то плохо.

Из Москвы и Киева послов не выдворяют, их президенты европейских лидеров «козлами», «вшивыми», «голубыми» не называют. И как-то все у них с Европой получается: для простых людей - визы дешевые, для государств -- проекты общие, лидеры встречаются, вопросы решают, руки друг другу пожимают. Зато ни к нам кто, ни мы к кому; апломб зашкаливает, язык без костей - и провал по всем фронтам…

Профсоюзный актив господина Козика дружно поддерживает судебные иски Циблиенко и Емельянчика, потому что видит в призывах к санкциям угрозу срыва глобальных экономических планов и проектов многих белорусских предприятий. А ведь для начала стоило бы разобраться с проектами, которые уже сорвались. Например, Китай на днях отказался от инвестиций в Минский аэропорт. Ивашкевич ничего Китаю не подсказывал, ни к чему не призывал. Они сами додумались…

…Так кто виноват, что большие китайские деньги упорно в Беларусь не идут, что сорвался проект с аэропортом? Кто виноват, что мы, как те ослы, ждем серьезных вливаний из Китая и одновременно развернули дипломатическую войну на западном фронте? Может, молодой начальник смены Алексей Емельянчик с «Гродно-Азота» все-таки по-честному ответит на вопрос, почему у Беларуси проблемы даже с китайскими инвестициями, хотя ни Ивашкевич, ни Усс к Пекину с воззваниями не обращались?

...Не надо быть экономистом, чтобы понять: мы сами поставили себя к стенке и теперь бьемся в нее, обвиняя весь мир. Хотя мир ничего невероятного от нас не требует. Европа готова и деньги дать, и свой рынок открыть. Напомню, что, когда перед президентскими выборами в Минск прилетали министры иностранных дел Польши и Германии, было однозначно заявлено: будут честные выборы -- Беларусь получит от ЕС 3 миллиарда евро. Но не нужны нашей власти оказались эти миллиарды. Ей лучше, чтобы спецназ, натасканный на разгон акций протеста, проверил свои умения на практике.

Проверили. Спецназ с безоружными людьми справился. Денег Беларусь не получила.

А потом был обвал рубля, рост цен, слезы пенсионеров возле прилавков с мясом и колбасой… И наше высшее начальство старательно делало вид, что очень простым людям сочувствует.

Сейчас есть план польского премьера Дональда Туска: белорусская власть выпускает из тюрем политзаключенных, прекращает репрессии против политических оппонентов, проводит честные выборы в парламент - и получает 9 миллиардов евро.

Но нам опять не надо. На днях глава Администрации президента Владимир Макей и министр иностранных дел Сергей Мартынов исполнили под телекамеры старые песни про давление и шантаж со стороны Европы.

А ведь они знают, что чуда не случится; что, кроме Запада, Беларусь из финансовой пропасти никто не вытянет. Российские деньги на поддержание штанов -- это всего лишь скупка наших заводов, а инвестиции из арабского мира -- скупка земель под гостиницы и развлекательные комплексы. Причем за копейки… Все это продлевает агонию. Не более.

Они знают, что без серьезных внешних финансовых и технологических вливаний белорусы так и будут душиться в очередях за социальным молоком, корячиться на нескольких подработках, экономить на отдыхе, питаться костями да капустой. Знают, что многие старики со своими пенсиями от такой жизни будут плакать. Знают, что далеко не все белорусские дети попробуют тот же ананас. Знают, что секонд-хенды -- обноски из Европы -- останутся самыми посещаемыми магазинами.

Знают. Но, сложив губы куриной гузкой, учат всех, как правильно Родину любить.

Они знают, что Европе, Западу от нас ничего вопиющего не надо -- только чтобы власти, считаясь с общечеловеческими ценностями, вели себя прилично и не натравливали белорусов на белорусов, брата на брата. А еще чтобы вернули нам, белорусам, право выбирать и президента, и депутатов. И что нет в этом никакого шантажа, никакого унижения или оскорбления страны.

Все всё знают, понимают, все не дураки. Но топ-персоны -- на телеэкране, профсоюзы встали в стойку, общественные организации, предприниматели, адвокаты принимают заявления и обращения, клеймят оппозицию позором и призывают Европу отказаться от введения санкций. Люди тонкой душевной организации типа Марины Циблиенко и Алексея Емельянчика в суды побежали, чтобы Родину защитить.

Спектакль это. И дурной. Отвлекающий от главного.

Потому что пока политзаключенные в тюрьмах, пока наша политическая система -- это настроения, желания, пристрастия и симпатии одного человека, -- никаких нормальных отношений с цивилизованным миром мы не выстроим. Если профсоюзы, адвокаты, предприниматели, физики, химики, поэты, художники, рабочие, учителя и т.д., и т.п. на самом деле хотят добра своей стране - простому работяге, мастеру смены на заводе или оператору вычислительных машин, они должны не к Европе взывать. Они должны от белорусской власти требовать: во-первых, освобождения политзаключенных; во-вторых, общественного диалога; в-третьих, серьезной политической реформы.

Чтобы каждый в Беларуси имел право голоса. Чтобы каждый имел право выбора. Чтобы власть не делила белорусов на правильных и неправильных.

Никаких политических конфликтов с Западом, никаких санкций не будет, если мы у себя в стране научимся вести политические споры без помощи тюрем и спецназа. Потому что нам всем здесь жить. У нас одна земля. Мы один народ. И хватит нас стравливать.

*(В сокращении)*

**Светлана Калинкина, «Народная воля»**

НАША ЎЛАДА

# КЛАСКОВСКИЙ: ЛУКАШЕНКО РАСТЕРЯН

21 АПРЕЛЯ НА ОБЩЕРЕСПУБЛИКАНСКОМ СУББОТНИКЕ АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО РАССКАЗАЛ ГОСУДАРСТВЕННЫМ МЕДИА ОБ АСПЕКТАХ ВНЕШНЕЙ И ВНУТРЕННЕЙ ПОЛИТИКИ.

Белорусы узнали, что у главы страны есть овечья ферма, а зарплаты белорусов скоро будут на уровне соседних стран. Политзаключенных же предупредили о возможности возвращения за решетку. При этом Лукашенко напомнил о своей «ненахильнасці» и признался, что «не имеет ничего к потере».

По словам политолога Александра Класковского, подобные заявления свидетельствуют о растерянности главы государства. Заявления, сделанные на субботнике, должны были заменить отложенное послание к народу. «Перенос послания негативно повлиял на имидж. Видно, что на самом деле официальный руководитель не знает, как вести себя. Поэтому в этой связи следовало высказаться и подчеркнуть, что он имеет ответы на все вопросы. Это прозвучало еще и в контексте возможных социальных протестов. Такие заявления звучат обычно тогда, когда какая-то проблема действительно волнует официального лидера. Так как пролетариат страшнее традиционной оппозиции для власти», - отметил Класковский.

Лукашенко подчеркнул, что освобождение Санникова и Бондаренко произошло не под давлением Запада, а по доброй воле главы государства. По его мнению, послы стран Евросоюза возвращаются в Беларусь только ради того, чтобы сохранить лицо.

Однако Класковский полагает, что это не совсем так. «Надо понимать, что послы не есть политики. Они в какой-то мере оказались заложниками ситуации. Европа же не хотела отозвать их. Это был очень вынужденный шаг, дипломатическая война - это нонсенс для Европы XXI века. Поэтому возвращение не нужно обставлять какой-то помпой. Власти Беларуси пытаются свести все только к циркуляции послов, чтобы скрыть главные проблемы: освобождение политзаключенных и нормальные выборы», - сказал эксперт в интервью телеканалу «Белсат».

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ПРАМЫСЛОВАСЦІ ПАСТАВІЛІ ДЫЯГНАЗ, КУРС ЛЯЧЭННЯ - 90 МЛРД. ДАЛЯРАЎ

КІРАЎНІК АНАЛІТЫЧНАГА ЦЭНТРА «СТРАТЭГІЯ» ЛЕАНІД ЗАІКА НАЗВАЎ ПАМЫЛКІ КІРАЎНІКА НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ НАДЗЕІ ЕРМАКОВАЙ, ЗА ЯКІЯ, У СВОЙ ЧАС, СТАВІЎ СТУДЭНТАМ «ДВОЙКІ».

Восенню 2011 года беларускі прэм'ер даручыў падрыхтаваць (распараджэнне № 153р) праект праграмы развіцця прамысловага комплексу Беларусі «на бліжэйшую і доўгатэрміновую перспектыву». Да цяперашняга часу праект гатовы. Аўтары праекта прапаноўваюць накіраваць на яе развіццё каля 90 млрд. даляраў.

Аўтары дакумента, тэкстам якога валодае інтэрнэт-газета Naviny.by, крытычна ацэньваюць цяперашні стан беларускай прамысловасці і прапануюць накіраваць на яе развіццё каля 90 млрд. даляраў.

Грошы ўнеслі, аддачы не атрымалі

Падрыхтоўка праграмы развіцця прамысловага комплексу на перыяд да 2020 года ажыццяўлялася пад кіраўніцтвам першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі. Бясспрэчная каштоўнасць дакумента складаецца ў разгорнутым апісанні бягучага стану беларускай прамысловасці.

Аказваецца, для нашых прамысловых прадпрыемстваў характэрны вельмі нізкі ўзровень прадукцыйнасці працы.

«Па дадзеным паказчыку ў апрацоўчай прамысловасці Рэспубліка Беларусь больш чым у 4 разы адстае ад ЕС-27, што адлюстроўвае нізкі ўзровень канкурэнтаздольнасці айчыннай прадукцыі на сусветных рынках», - гаворыцца ў праекце праграмы развіцця прамысловага комплексу да 2020 года, тэкстам якога валодае інтэрнэт-газета Naviny.by.

Плюс да гэтага, як высвятляецца з дакумента, у Беларусі склалася неэфектыўная галіновая і тэхналагічная структура прамысловага комплексу: на долю высокатэхналагічных вытворчасцей у нашай краіне прыпадае толькі 2-3% выпускаемай прамысловай прадукцыі.

Для беларускіх прампрадпрыемстваў таксама характэрная «высокая матэрыяла-, імпарта-і энергаёмістасць», што прыводзіць «да дэфіцыту фінансавых рэсурсаў для папаўнення абаротных сродкаў і інвесціравання ў тэхнічнае пераўзбраенне».

Тым не менш, нягледзячы на нізкую эфектыўнасць, у беларускія прадпрыемствы укладвае велізарныя грошы. Адэкватнай аддачы ад укладзеных інвестыцый не было. Паводле ацэнак аўтараў распрацаванай праграмы, у 2006-2010 гг. тэмп росту інвестыцый у асноўны капітал у прамысловасці перавысіў тэмп росту вытворчасці прамысловай прадукцыі на 74 працэнтных пункта.

«Аддача інвестыцый (рубель прадукцыі на рубель інвестыцый) знізілася з 13,8 рублёў у 2006 годзе да 11,7 рублёў у 2010 годзе», - паведамляецца ў праекце праграмы развіцця прамысловага комплексу.

Адштурхнуўшыся ад існых болек беларускай прамысловасці, распрацоўшчыкі праграмы прапануюць у 2012-2020 гг. накіраваць намаганні на павышэнне канкурэнтаздольнасці промсектора. Дамагчыся гэтага прапануецца двума шляхамі: за кошт мадэрнізацыі традыцыйных сектараў прамысловасці і праз стварэнне «высокатэхналагічных навукаёмістых вытворчасцей». Рэалізацыя падрыхтаванай прамысловай праграмы, як чакаецца, дазволіць за наступныя восем гадоў «скараціць ўдвая разрыў па ўзроўні прадукцыйнасці працы ад еўрапейскіх краін».

Аднак каб дасягнуць гэтай мэты, неабходна будзе накіраваць на развіццё прамысловасці ў 2012-2020 гг. каля ... 90 млрд. даляраў. Менавіта такі аб'ём расходаў прадугледжвае падрыхтаваная праграма развіцця прамысловага комплексу Беларусі.

На мінулым тыдні, па інфармацыі Naviny.by, падрыхтаваны праект праграмы развіцця промкомплекса разглядалася на ўзроўні бізнес-асацыяцый. У абмеркаванні дакумента прыняў удзел і першы віцэ-прэм'ер Уладзіміра Сямашкі.

Многія прадстаўнікі дзелавой супольнасці апынуліся незадаволеныя прадстаўленым варыянтам праграмы развіцця прамысловага комплексу. «Інвестпраекты, рэалізацыя якіх прадугледжана падрыхтаванай праграмай, арыентаваны на традыцыйныя сектара і не змяняюць існуючую структуру эканомікі», - кажа намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц.

Прадстаўнікі бізнес-саюзаў таксама не згодныя з ключавымі ідэямі падрыхтаванай праграмы.

«Адна з задач распрацаванай праграмы складаецца ў тым, каб скараціць разрыў у прадукцыйнасці працы з еўрапейскімі краінамі з чатырох да двух разоў. Аднак чаму мы павінны быць увесь час даганяць? Неабходна вызначыць сектара эканомікі, дзе мы будзем паказваць вынікі лепш, чым іншыя краіны. У падрыхтаванай праграме такія сектара не вызначаны «, - канстатуе Георгій Грыц.

Віктар Маргелаў, у сваю чаргу, адзначае, што ў падрыхтаванай праграме не знайшлі адлюстравання многія пытанні, ад рашэння якіх залежаць магчымасці для развіцця вытворчага сектара. «У праграме развіцця прамысловага комплексу павінна быць адлюстравана падатковая палітыка ў адносінах да вытворцам. У дакуменце неабходна распісаць, як будуць мяняцца стаўкі асноўных падаткаў. Ад гэтага наўпрост будуць залежаць ўмовы для развіцця вытворчага сектара », - мяркуе Віктар Маргелаў.

Паводле інфармацыі Naviny.by, на гэтым тыдні прадстаўнікі бізнес-супольнасці накіруюць у Мінэканомікі ліст, у якой агучаць свае прапановы ў праект праграмы развіцця промкомплекса. Мяркуецца таксама, што бізнес-саюзы накіруюць ліст прэм'ер-міністру Міхаілу Мясніковічу і папросяць яго не спяшацца з прыняццем падрыхтаванай праграмы развіцця промкомплекса і накіраваць яе на дапрацоўку.

Цяперашні варыянт праграмы, лічаць назіральнікі, не дае адказу на многія пытанні. У прыватнасці, на фінансавы. Падрыхтаваны праект праграмы прадугледжвае, што выдаткі на яе рэалізацыю складуць каля 90 млрд. даляраў. «Застаецца адкрытым пытанне, дзе крыніцы фінансавання падрыхтаванай праграмы», - адзначае Георгій Грыц.

**Дзмітрый Заяц, "БЕЛАПАН"**

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# НІЯКАГА ЛЯЧЭНЬНЯ КАВАЛЕНКУ НЕ АКАЗВАЕЦЦА

17 КРАСАВІКА ЗЬ СЯРГЕЕМ КАВАЛЕНКАМ У ПСЫХІЯТРЫЧНАЙ ЛЯКАРНІ Ў НАВІНКАХ СУСТРЭЎСЯ ЯГОНЫ АДВАКАТ. ЖОНКА АКТЫВІСТА АЛЕНА КАВАЛЕНКА РАСПАВЯЛА ПРА ТОЕ, ШТО ЗАРАЗ АДБЫВАЕЦЦА ЗЬ ЯЕ МУЖАМ.

«Што ён сказаў? Што Сяргей яшчэ выглядае дрэнна, застаецца вельмі схуднелым. Настрой у яго, канечне, палепшыўся, але ніякага лячэньня яму не аказваецца. Фактычна ён туды кінуты проста на выжываньне. Ніякага лекаваньня і кантролю над станам унутраных органаў яму не аказваюць. Аналізы яшчэ ня зробленыя — ва ўсякім разе, пра гэта яшчэ не сказалі. Таму я б хацела, каб яго хутчэй адправілі ў цывільны шпіталь, бо ягонае жыцьцё яшчэ застаецца пад пагрозай. Бо кантролю ад мэдыкаў за ягоным станам няма. Наколькі я ведаю, яго там нават ня ўзважылі. Выжыве — добра, ня выжыве… Там толькі за ім назіраньне».

Паводле рашэньня Віцебскага абласнога суду, які разглядаў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі, на пачатку красавіка актывіст быў зьмешчаны ў «Навінкі» дзеля комплекснай псыхіятрычнай экспэртызы. Зь сярэдзіны сьнежня да канца сакавіка зь перапынкам на 20 дзён Сяргей Каваленка трымаў галадоўку пратэсту, за час якой схуднеў да 45 кіляграмаў. Пасля зьмяшчэньня ў Навінкі патрыёт Каваленка галадоўку спыніў.

**Алег Грузьдзіловіч, «Радыё Свабода»**

МЫТНЫ САЮЗ

# Беларусь у СГА не бяруць, але жыць па яе правілах абавяжуць

ДА ЎСТУПЛЕННЯ РАСЕІ Ў СГА, ЯКОЕ ЧАКАЕЦЦА Ў СЯРЭДЗІНЕ ГЭТАГА ГОДА, ЗАСТАЮЦЦА ЛІЧАНЫЯ МЕСЯЦЫ.

У сувязі з гэтым у Мытным саюзе, куды ўваходзяць Расія, Беларусь і Казахстан, знізяцца стаўкі мытных пошлін. Паводле ацэнак Сусветнага банка, уступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю прынясе Расіі істотныя выгады. А вось у Беларусі з-за ўваходжання Расіі ў СГА з'явяцца новыя праблемы.

Для Расеі ўваходжанне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю – добра. Пры тым што непазбежныя некаторыя бюджэтныя страты, звязаныя са зніжэннем ў рамках СГА мытных пошлін, выгады апынуцца істотна вышэй. Паводле прагнозу Сусветнага банка, далучэнне да Сусветнай гандлёвай арганізацыі на працягу бліжэйшых трох гадоў будзе прыносіць Расеі штогод каля 3,3% ВУП (або 49 млрд. даляраў). У далейшым выгады Расеі ад ўступлення ў СГА, паводле ацэнак Сусветнага банка, яшчэ больш ўзрастуць.

Як ўваходжанне Расіі ў СГА паўплывае на Беларусь? Былы прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Сідорскі, які цяпер з'яўляецца членам калегіі Еўразійскай эканамічнай камісіі, у сакавіку даў зразумець, што пасля ўступлення Расеі ў СГА стаўкі мытных пошлін на тэрыторыі Мытнага саюза зменяцца.

«Усе краіны Мытнага саюза будуць прымаць мытныя тарыфы той краіны, якая першай ўступіць у СГА», - заявіў Сідорскі. Першай, зразумела ўжо ўсім, уступіць у СГА Расея.

Намеснік старшыні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Георгій Грыц удакладняе, што цяпер Беларусі давядзецца выконваць тарыфныя абавязацельствы, якія ўзяла на сябе Расея перад СГА.

«Абавязацельствы Расіі перад СГА з'яўляюцца нормамі, абавязковымі для выканання ўсімі краінамі Мытнага саюза. Мы трапляем ў сітуацыю, калі, не з'яўляючыся членамі СГА, павінны выконваць патрабаванні СГА », - кажа Георгій Грыц.

Прымаючы ўмовы СГА, Расія ўзгадніла з міжнароднай гандлёвай арганізацыяй больш нізкія мытныя тарыфы, чым тыя, якія дзейнічаюць у Мытным саюзе. Паводле інфармацыі МЗС Беларусі, «у дачыненні да больш за 1000 пазіцый расійскія абавязацельствы перад СГА ніжэй дзеючых ставак Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза на 7-15 працэнтных пунктаў. 3 іх больш за 50 пазіцый - адчувальныя для Рэспублікі Беларусь «.

Аднак у найбольшай ступені ўступленне Расіі ў СГА можа адбіцца на беларускіх экспарцёрах, якія працуюць у сферы машынабудавання, у тым ліку - сельгасмашынабудавання.

Пасля ўваходжання Расіі ў СГА сельгастэхніка, а таксама грузавыя аўтамабілі будуць перасякаць мяжу Мытнага саюза, абкладаючы больш нізкімі мытнымі стаўкамі. Да прыкладу, пошліны на ўвоз сельгастэхнікі ў Расію пасля яе ўступлення ў СГА знізяцца адразу з цяперашніх 15% да 10-5%. Гэта прывядзе да таго, што ў Расею з краін СГА стане паступаць больш танная сельгастэхніка. Падобная сітуацыя па грузавых аўтамабіляў.

Ну і нарэшце - яшчэ адна непрыемная навіна: абараніць сельгастэхніка і аўтамабілебудаванне ад танных імпартных аналагаў пасля ўступлення Расіі ў СГА будзе вельмі складана.

Ну і нарэшце - яшчэ адна непрыемная навіна: абараніць самастойна свае інтарэсы беларускі бок не зможа. Справа ў тым, што члены СГА маюць доступ да механізму дазволу спрэчак, які існуе ў рамках міжнароднай гандлёвай арганізацыі. След за Расіяй членам СГА ў 2012 годзе стане Казахстан. Такім чынам, Беларусь, якая яшчэ далёкая ад уступлення ў гандлёвую арганізацыю, - адзіная краіна ў АЭП, якая не будзе мець доступу да механізму дазволу спрэчак ў СГА.

Увогуле, канкурэнцыя для беларускіх вытворцаў, асабліва для экспарцёраў, пасля ўступлення Расеі ў СГА сур'ёзна ўзрасце. Цалкам верагодна, што ў новых умовах кампаніі, прысутныя на расійскім рынку, захочуць пацясніць беларускіх вытворцаў. Што гэта азначае для апошніх?

Зірнем на статыстыку. У 2011 годзе Беларусь паставіла на экспарт 11782 грузавыя аўтамабілі, у тым ліку ў Расію - больш за 9 тысяч; 6865 седлавых цягачоў, у тым ліку ў Расію - 6251. На экспарт было таксама пастаўлена 57.224 трактары, у тым ліку ў Расію - амаль 30 тысяч. Як бачым, на расійскі рынак прыходзіцца ільвіная доля экспарту прадукцыі беларускага машынабудавання. Таму калі канкурэнты пачнуць выцясняць яго прадпрыемства з расейскага рынку, гэта будзе адчувальным ударам.

У той жа час, як мяркуе навуковы дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ Ірына Тачыцкая, уступленне Расеі ў СГА можа падштурхнуць рэформы ў рэальным сектары беларускай эканомікі. «У нашай эканоміцы было мала выклікаў, якія прымушалі б праводзіць рэформы і павышаць эфектыўнасць. Нас вельмі расслабляе расійскі рынак і танныя энерганосьбіты. Зараз, у сувязі з уступленнем Расіі ў СГА, і нам давядзецца думаць аб павышэнні сваёй канкурэнтаздольнасці», - кажа Ірына Тачыцкая.

**Дзмітрый Заяц, БЕЛАПАН**

САЛІДАРНАСЦЬ



# ПАДТРЫМАЙЦЕ ІХ ГРАШОВЫМ ПЕРАВОДАМ!

ПАСЛЯ ТАГО, ЯК АКТЫВІСТА КХП-БНФ СЯРГЕЯ КАВАЛЕНКУ АРЫШТАВАЛІ, ЯГО РОДНЫЯ ЗАСТАЛІСЯ БЕЗ КРЫНІЦЫ ПРЫБЫТКАЎ: СЯРГЕЙ БЫЎ АДЗІНЫМ, ХТО ПРАЦАВАЎ.

Яго жонка Алена знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Цяпер жанчына засталася з 8-месячнай дачкой і 7-гадовым сынам на руках. Падтрыймайце сям'ю Каваленкаў!

Грошы можна высылаць паштовым пераводам:

210038, г. Віцебск, Маскоўскі праспект, д. 47, к. 1, кв. 57. Каваленка Алена Юр'еўна.

Альбо можна пералічыць на банкаўскі рахунак, каму так зручнее:

р/р 01073849, Беларусбанк, адз.201/85, г.Віцебск, Каваленка Алена Юр'еўна.

Летась людская салідарнасць дапамагла зволненай настаўніцы гісторыі з Талькі Наталлі Ільніч, якая атрымала 169 грашовых пераводаў.

НУ І НУ!..

# ЖАРТАЎ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ

ТЭЛЕКАНАЛ АНТ НА ПОЎНЫМ СУР'ЁЗЕ 8 КРАСАВІКА ПАЎТАРЫЎ ПЕРШАКРАСАВІЦКІ ЖАРТ ГАЗЭТЫ «ТАВАРЫШ» ПРА «ФАЛЬСЫФІКАЦЫІ» НА ЗЬЕЗЬДЗЕ АГП.

На сайце газэты 1 красавіка была разьмешчаная нататкa пад загалоўкам «Зьезд АГП скончыўся гучным скандалам», у якой гаварылася, што «апазыцыянэры, якія ўвесь час вінавацяць улады ў падтасоўцы галасоў на выбарах, самі не зусім чыстыя на руку». Паведамлялася, што па выніках нібыта праведзенага прадстаўнікамі іншых партый экзіт-полу, Анатоль Лябедзька не перамог у ходзе тайнага галасаваньня па выбарах старшыні партыі — за яго на самой справе прагаласавала ўсяго 15,5%.

Як паказала «журналісцкае расьсьледаваньне», аднапартыйцы не даравалі Анатолю Лябедзьку непрыстойных паводзінаў у грамадзкіх месцах: «Як можа старшыня партыі, які прэтэндуе на нацыянальнае лідэрства, брыдкасловіць у грамадзкіх месцах? Гэта недапушчальна! Таму я і мае аднадумцы галасавалі супраць », - цытаваў сайт нейкую паважаную дэлегатку зьезду.

Самому Анатолю Лябедзьку «Товарищ.online» прыпісаў такія словы: «У першую чаргу мы паглядзім відэазапіс з пакою падліку галасоў. Падругое, высьветлім, б...ь, хто спрабуе дэстабілізаваць сытуацыю ў партыі. Па-трэцяе, гатовы падаць у адстаўку, калі гэтыя зьвесткі пацьвердзяцца».



Гэтая першакрасавіцкая нататкa была на поўным сур'ёзе працытаваная ў эфіры выніковай праграмы «Контуры» на тэлеканале АНТ, прысьвечанай тэме эўрапейскіх санкцый і ўплыву апазыцыі на іх прынянцьце.

Тэлеканал Белсат 1 красавіка перадаў інфармацыю пра заклік палітычнага эмігранта зь Беларусі Зьмітра Піменава да НАТА з просьбай увесьці войскі ў Беларусь.

На мінулым тыдні гэты першакрасавіцкі жарт прыгадаў у сваёй заяве як сур'ёзную прапанову кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта РБ Уладзімер Макей: «Апазыцыя спрэс складаецца з такіх вось Піменавых», — рэзюмаваў ён. І гэтыя "сур'ёзныя" высновы некалькі дзён паўтараюць дзяржаўныя СМІ.

**Радыё "Свабода".**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 26.04.2012 у 17.20.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.